# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 11 (198)
лістапад 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### "Суценёры, рэкецёры і каапературыўшчыкі"

У супольнай серыі ЗБС "Бацькаўшчына" і "Саюза беларускіх пісьменнікаў" убачыў свет ужо пяты выпуск "Дзённікаў і запісаў" народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

Працяг на старонцы 3.

### Чалавек, які лічыць, што Беларусь магла б быць наперадзе ўсёй Еўропы

10 цікавых фактаў пра Радзіма Гарэцкага.

Працяг на старонцы 4.

### Рыжская Дума прызнала Вячку Целеша чалавекам года за ўнёсак у адукацыю

Сузаснавальнік Таварыства беларускай культуры "Світанак" у Латвіі, кіраўнік аб'яднання беларусаў-мастакоў Балтыі "Маю гонар", сябра Рады "Бацькаўшчыны" Вячка Целеш уганараваны Думай Рыгі.

Працяг на старонцы 5.

### Ці з'явіцца беларускае замежжа ў беларускіх школьных падручніках?

Працяг на старонцы 6.



# РАДЗІМ ГАРЭЦКІ – "БУДЗЬМА!" – 90:10

5 снежня ў Мінску адбылося пасяджэнне Малой Рады "Бацькаўшчыны", падчас якога была зацверджаная справаздача дзейнасці Згуртавання за 2018 год.

На самым пачатку сустрэчы прысутныя ўрачыста павіншавалі з надыходзячым 90-гадовым юбілеем сябра Рады Радзіма Гарэцкага і з 70-годдзем яго паплечніцу і жонку Галіну, у якой юбілей быў якраз у дзень пасяджэння. У часе сваёй прамовы Радзім Гаўрылавіч высока ацаніў вынікі дзейнасці "Бацькаўшчыны", надзвычай цёпла адазваўся пра кіраўніцтва і прызнаўся, што Згуртаванне, арганізацыя, якую ён сам узначальваў на працягу васьмі гадоў, займае вельмі важнае месца ў яго душы.

Пасля ўрачыстай часткі кіраўніцы Згуртавання Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская агучылі вынікі працы за мінулы год. А зроблена было нямала.

Цягам 2018 года "Бацькаўшчына", акрамя традыцыйных падтрымкі сувязі з арганізацыямі беларускай дыяспары за мяжой і асвятлення іх дзейнасці, брала ўдзел у грамадскіх акцыях, рабіла захады па ўдасканаленні існуючага заканадаўства, звярталася з прапановамі ў дзяржаўныя ўстановы аб унясенні зменаў у школьныя навучальныя праграмы ў дачыненні да беларусаў замежжа, спрыяла ўсталяванню помнікаў, выдавала кнігі і, вядома, каардынавала дзейнасць грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!".

Гэтак, цягам году спецыялісты Згуртавання прааналізавалі законы "Аб беларусах замежжа", "Аб сродках масавай інфармацыі" і "Аб грамадзянстве", статут Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кодэксы Рэспублікі Беларусь "Аб культуры" і "Аб адукацыі". Заўвагі і прапановы былі накіраваны ў Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта (спасылка).

Аналіз школьнай праграмы прадметаў гуманітарнага цыклу выявіў нязначную ўвагу да ролі нашых замежных суайчыннікаў, а месцамі нават і няўхвальнае да іх стаўленне з той прычыны, што яны эміґравалі. Вынікі гэтага аналізу разам з прапановамі былі накіраваны ў шматлікія дзяржаўныя ўстановы: Нацыянальны інстытут адукацыі, Міністэрства адукацыі, Адміністрацыю прэзідэнта, Палату прадстаўнікоў. І з атрыманых адказаў вынікае, што гэтыя прапановы прынамсі будуць накіраваныя да разгляду сябрам працоўных груп для дапрацоўкі падручнікаў.

Таксама на зварот дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Алены Анісім (між іншага, таксама сябра Рады "Бацькаўшчыны") і Ганны Канапацкай быў падрыхтаваны аналіз выпадкаў выкарыстання беларусамі замежжа бела-чырвона-белага сцяга за апошнія некалькі гадоў. Яго вынікі будуць улічаныя пры разглядзе праекта закона "Аб выкарыстанні і ахове першага дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь".

Працяг на старонцы 2.

навіны "Бацькаўшчыны"

# РАДЗІМ ГАРЭЦКІ – "БУДЗЬМА!" – 90:10

Працяг са старонкі 1.

"Бацькаўшчына" паспрыяла ў справе ўстаноўкі помніка Антона і Івану Луцкевічам, які быў адкрыты напярэдадні 25 сакавіка. Ініцыятаркай і натхняльніцай пытання была Маргарыта Пярова з Пецярбурга.

Акрамя гэтага Згуртаванне актыўна працягвала выдавецка-асветную дзейнасць, выдаючы кнігі ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны", а таксама паспрыяўшы выхаду кніг Радзіма Гарэцкага "Апантаны Бацькаўшчынай" і Пётры Мурзёнка "Колеры".

Ініцыяваная Згуртаваннем грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!", якая ў гэтым годзе адсвяткавала 10-гадовы юбілей, па-ранейшаму ладзіла шматлікія літаратурныя і музычныя сустрэчы ў шчыльным супрацоўніцтве з Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

Вынікам рэгулярнага правядзення рэгіянальных мерапрыемстваў (прэс-клубы, ток-шоў, дыскусійныя клубы, "Школа мэраў") на працягу некалькіх гадоў стала відавочнае паляпшэнне сітуацыі з ростам колькасці мясцовых грамадскіх ініцыятываў і рэакцыі на іх мясцовых адміністрацый. Пра гэта сведчыць і даследаванне лабараторыі "Новак" "Узаемадзеянне грамадзянскай супольнасці і дзяржавы на мясцовым узроўні", зробленае на замову кампаніі "Будзьма беларусамі!" і СІМПА. Вынікі даследавання неўзабаве будуць апублікаваныя.

Пры канцы года "Будзьма!", як і ў ранейшыя гады, выдала новы выпуск хітовага календара "Не маўчы па-беларуску" і аднайменнага камплекта паштовак. Сапраўдны поспех меў выхад новага рамана Віктара Марціновіча "Ноч", сталага і вострага калумніста сайту кампаніі.

Сябры Малой Рады адзінагалосна ўхвалілі справаздачу.

Гісторык Леанід Лыч выступіў з прапановай зладзіць у 2019 годзе канферэнцыю, прысвечаную 75-годдзю паваеннай эміграцыі.

Пісьменнік і грамадскі дзеяч Павел Севярынец заклікаў сяброў Рады завітаць у Курапаты, каб падзякаваць грамадскім актывістам, якія працягваюць пратэставаць супраць забудовы ахоўнай зоны месца масавых расстрэлаў у часы сталінскіх рэпрэсій.

Пры канцы пасяджэння Малая Рада ўхваліла прапанову правесці Вялікую Раду праз пісьмовае апытанне і даручыла Управе Згуртавання да распрацаваць апытанне аб прапановах у новую дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце", што будзе прынята ў 2020 годзе.

**Інфармацыйны цэнтр**
**МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

мастацтва

# У МІНСКУ ПРАЙШЛА ВЫСТАВА АКТУАЛЬНАГА БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА "ZBOR IN PROGRESS"

З 16 кастрычніка па 30 лістапада ў мінскай галерэі "Ў" праходзіла выстава "ZBOR In Progress" – адна з найважнейшых падзей сучаснага беларускага мастацтва апошняга дзесяцігоддзя.



Са словаў аднога з яе сукуратараў Андрэя Дурэйкі, гэтая выстава мела на мэце не толькі даследаванне і рэпрэзентацыю ў новым ключы прызнаных у свеце дасягненняў сучаснага беларускага мастацтва за апошнія трыццаць гадоў, але яшчэ і спробу даць перспектыву для развіцця зусім маладым творцам. Таксама адной з тэмаў "ZBOR in Progress" стала даследаванне адкрытай праблемы актуальнай культуры: вынаходніцтву спосабаў захавання і архівацыі твораў сучаснага мастацтва. Адной з такіх спробаў можна было назваць адасобленую бесперапынную відэаэкспазіцыю – гіганцкі экран, на якім трансляваліся відэазапісы перформансаў і фрагменты некаторых буйных інсталяцый у маштабе 1:1.

Андрэй Дурэйка пастараўся адказаць "Бацькаўшчыне" на пытанне пра "самыя-самыя" працы ці іх запісы і фрагменты, якія былі прадстаўленыя ў экспазіцыі.

### Самая "палітычная" праца

Праект Ігара Цішына "Лёгкі партызанскі рух", татальная інсталяцыя, якая на дзесяцігоддзі вызначыла стратэгію "партызанскай плыні" ў беларускім актуальным мастацтве. Водгуллем гэтай стратэгіі можна назваць, да прыкладу, часопіс "pARTisan" Артура Клінава.

### Самая душэўная праца

Лявон Тарасэвіч узяў удзел у выставе нягледзячы на тое, што фрэска, калісьці зробленая ім у Віцебску, зруйнаваная. Сёння мы зноў маем працу Лявона Тарасэвіча ў Беларусі.

### Самая ўрбаністычная праца

Праца Сяргея Кірушчанкі з цыклу, прысвечанага грунтоўнаму пераасэнсаванню сродкамі лэнд-арту, архітэктонікі і архітэктуры беларускага гарадскога ландшафту – канструктывісцкага, постсавецкага.

### Самая навуковая праца

Эвеліна Домніч і Дзмітрый Гельфанд – сумежжа мастацтва і навукі. "Гукалевітацыя" з "танцам" фальгі на адмыслова згенераваных "стаячых" гукавых хвалях.

### Самая радыкальная праца

Ганна Сакалова звяла мастацкае выказванне да простай маніфестацыі, а выяўленчыя сродкі – да адзінага элементу: белай рыскі ў прасторы. Праца "Арнамент" – на мяжы чыстай пластыкі, прастораўтваральнай, пазбаўленай сацыяльнага аспекту.

### Самая "літаратурная" праца

Канцэптуальны падыход Аляксея Лунёва. "Нічога няма" – ікона сучаснага беларускага мастацтва, самы публікаваны беларускі мастацкі твор за мяжой. Два белых словы на графітавым тле.

### Самая гламурная праца

Невялічкая брош, пертвораная Уладзімірам Цэслерам у сімвал, які адпавядае і беларускаму барока, і беларускай постканцэптуальнай самаіроніі, і экспансіі гламура.

### Самая музычная праца

Гадзінная монаопера "Beguiling Orpheus", створаная відэамастаком Максімам Тымінькам (сукуратарам "ZBOR in Progress") разам з музыкам Глебам Шутавым. Спявачка на фоне заварожвальнай баракальнай інтэрактыўнай праекцыі, зробленай з актыўным выкарыстаннем тэхнікі калажу, мантажу, найноўшых тэхналогій візуалізацыі і праграмавання. За жывой карцінай хаваюцца дакладныя разлік і перспектывы і матэматычныя структуры.

З працамі беларускіх мастакоў, якія трапілі на "ZBOR in Progress" ці разглядаліся ў якасці прэтэндэнтаў да ўдзелу ў экспазіцыі, можна пазнаёміцца на сайце kalektar.org.

**Гутарыў Сяргей Кандраценка,**
**прэс-сакратар ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# МУЗЫКА І ЛІТАРАТУРА, ГІСТОРЫЯ І МАРЫ ПРА БУДУЧЫНЮ

Творчыя сустрэчы з сябрамі "Будзьма беларусамі!" ў лістападзе.

9 лістапада на сустрэчу з удзельнікамі культурніцкага праекта "Рэзананс" завітаў бард, перакладчык і вельмі абаяльны музыка Алесь Камоцкі. Клуб "Рэзананс" існуе ўжо 18 гадоў і праводзіць свае мерапрыемствы на розных мінскіх пляцоўках. Гэтым разам усё адбывалася ў бібліятэцы імя Пушкіна. Канцэрт быў зладжаны ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" пры падтрымцы грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Гучалі розныя песні: і ўласныя, і пераклады. Музыка перамяжоўвалася цікавымі гісторыямі з жыцця, жартамі, сур'ёзнымі разважаннямі пра сучасны стан паэзіі і беларускай літаратуры ўвогуле. Слухачы былі настолькі ўражаныя творчасцю спадара Алеся, што запрасілі яго завітаць да іх яшчэ.

13 лістапада ў мінскім рэпетытарскім цэнтры "Веснушки" з падтрымкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" і "Саюза беларускіх пісьменнікаў" прайшла сустрэча з аўтарам беларускага фэнтэзі для падлеткаў Аляксеем Шэіным. Школьнікі 5–7 класаў змаглі паслухаць расповед пра жанр фэнтэзі, яго ўзнікненне і развіццё, а таксама пазнаёміцца з творамі беларускіх аўтараў, напісанымі ў гэтым жанры. Адбылася і невялічкая віктарына на тэму беларускай мовы і літаратуры – пераможцы атрымалі прызы ад кампаніі "Будзьма беларусамі!".

16 лістапада ў бібліятэцы №2 пры падтрымцы кампаніі "Будзьма беларусамі!" і Саюза беларускіх пісьменнікаў адбылася прэзентацыя рамана Яўгена Зубовіча "Беларускі палкоўнік". Кніга прысвечаная драматычным падзеям XVII стагоддзя. Галоўны герой рамана – магілёўскі шляхціц Канстанцін Паклонскі. Падчас прэзентацыі гледачы не толькі пазнаёміліся з аўтарам, але і пабачылі тэатральныя эцюды па матывах "Беларускага палкоўніка", пачулі гучанне старажытных музычных інструментаў, узялі ўдзел у гістарычнай віктарыне (пераможца атрымаў галоўны прыз – кнігу "Беларускі палкоўнік" з аўтографам), самыя актыўныя ўдзельнікі віктарыны таксама атрымалі падарункі ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" – камплекты паштовак "Не маўчы па-беларуску" і зручныя торбачкі.

Гэтым жа днём на сустрэчу з паэтам Міхасём Скоблам і спявачкай Таццянай Грыневіч-Матафонавай у Цэнтральную дзіцячую бібліятэку г. Мінска прыйшлі навучэнцы Дзяржаўнага каледжа сферы абслугоўвання. На пачатку свайго выступу паэт звярнуў увагу слухачоў, што "сам будынак бібліятэкі, прасторнай і светлай, – як паказчык запатрабаванасці вашых будучых прафесій. Абышоўшы вакол яго, я налічыў ажно 18 шыльдаў: "Цырульня", "Таверна", "Белбізнесбанк"... І гэта зарука таго, што вы не застанецеся беспрацоўнымі! Але мала стаць добрым спецыялістам, неабходна ў любой прафесіі быць беларусам, і тады справы ў вашай рэстарацыі ці вашым банку адразу пойдуць на лад", – заахвоціў выступоўца і як прыклад паспяховага банкіра назваў дырэктара Белгазпрамбанка Віктара Бабарыку, які ўмее не толькі лічыць грошы, але і набывае для айчынных музеяў на замежных аўкцыёнах творы беларускіх мастакоў. Спадар Міхась зладзіў міні-конкурс на найлепшае веданне беларускай гісторыі, які "ілюстраваў" сваімі вершамі. Пераможцы атрымалі прызы ад кампаніі "Будзьма беларусамі!". Будучыя кухары, банкіры і цырульнікі з задавальненнем слухалі беларускія рамансы ў выкананні спадарыні Таццяны, а пасля сустрэчы рабілі з ёй сэлфі.



Творчы дуэт Таццяны Грыневіч-Матафонавай і Міхася Скоблы 18 лістапада ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі!" і пры падтрымцы ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" выступіў у Рэспубліканскім дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры ў Астрашыцкім Гарадку.

Сёлета спаўнілася 400 гадоў першаму ў свеце Буквару, які з'явіўся на свет у Вялікім Княстве Літоўскім, дзякуючы праваслаўным манахамбратчыкам, а 50 гадоў таму выйшла ў свет першае выданне Буквара Анатоля Клышкі. Таму сустрэчу прысвяцілі гэтым двум датам.

Паводле слоў М. Скоблы, Клышкаў "Буквар" – самая тыражная беларуская кніга ў свеце: "Я так прыкінуў: яго агульны наклад у 2018 годзе перавысіў 2 мільёны асобнікаў!" Паэт чытаў новыя вершы-хуткамоўкі, загадваў вершаваныя загадкі, правёў бліц-конкурс на найлепшае веданне беларускіх песняў. А паколькі вучні ведалі іх не вельмі шмат, спадарыня Таццяна тут жа прадэманстравала найлепшыя з іх у сваім непаўторным выкананні. На сустрэчы прысутнічала каля 120 школьнікаў і 8 педагогаў. Найбольш актыўныя з іх атрымалі памятныя падарункі ад кампаніі "Будзьма беларусамі!".

**"Будзьма беларусамі!"**

# "СУЦЕНЁРЫ, РЭКЕЦЁРЫ І КААПЕРАТЫЎШЧЫКІ"

У супольнай серыі ЗБС "Бацькаўшчына" і "Саюза беларускіх пісьменнікаў" убачыў свет ужо пяты выпуск "Дзённікаў і запісаў" народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.




З нататкаў, якія дзядзька Рыгор рабіў цягам усяго жыцця, у гэты том укладальніца Наталля Давыдзенка адабрала толькі зробленыя ў 1989–1991 гг. Бо падзеі гэтых трох гадоў сталі вызначальнымі і для Беларусі, і моцна паўплывалі на далейшае жыццё самога Рыгора Барадуліна.

Вядома, як і ў ранейшых выпусках запісаў, чытача не пакінуць абыякавымі вандроўныя нататкі дзядзькі Рыгора, зробленыя ў Польшчы, Францыі, а тым больш у Кітаі. Вандроўкі ў Эстонскую, Украінскую, Кіргізскую, Туркменскую, Узбекскую, Літоўскую, Малдоўскую і Латышскую ССР сталі для пісьменніка апошнімі – бліжэй да канца кнігі гэтыя краіны пакрысе знікаюць з палітычнай мапы свету, як і БССР. Замест паўстаюць маладыя незалежныя дзяржавы. Першыя нясмелыя крокі незалежнай Рэспублікі Беларусь, поўныя трывожных чаканняў і светлых надзеяў, набылі вельмі яскравае адлюстраванне ў паэтавых дзённіках.

Неспадзяваная "перабудова" і нечуваная "галоснасць". Мітынгі ў Курапатах, шматлюдныя шэсці ў гадавіну Чарнобыльскай аварыі. Сяброўства ў Беларускім народным фронце і прэзідэнцтва ў новастворным Беларускім ПЭН-Цэнтры. Сусветны кангрэс беларусістаў з удзелам прадстаўнікоў эміграцыі і падпісанне Белавежскага пагаднення. А яшчэ інфляцыя, талоны на прадукты, "суценёры, рэкецёры і кааператыўшчыкі", больш за сем дзясяткаў не ўключаных у ранейшыя зборнікі вершаў і шмат іншага чакае чытача на старонках новага і не апошняга выпуску "Дзённікаў і запісаў" дзядзькі Рыгора.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

асоба

# Радзім Гарэцкі: чалавек, які лічыць, што Беларусь магла б быць наперадзе ўсёй Еўропы

10 цікавых фактаў пра Радзіма Гарэцкага.

### Ён ганарыцца сваім іменем і лічыць яго дастаткова рэдкім

Паводле словаў Радзіма Гарэцкага, "імя Радзім я амаль не сустракаў цягам усяго свайго жыцця. Але гэта даўняе беларускае імя. І паходзіць яно са старажытных часоў. Жылі калісьці два браты – Радзім і Вятка, прыйшлі на нашы землі з Карпацкіх гор. Радзім застаўся на Сажы, і ад яго пайшло племя радзімічы. А Вятка пайшоў далей і заснаваў племя вяцічы. Я толькі аднойчы сустрэў імя Радзім. Быў у колішняй Чэхаславаччыне геолаг Радзім Кэртнер, але ён быў за мяне намнога старэйшы, і мы не паспелі сустрэцца. Так што бачыце – я геолаг, і ён геолаг, і мы абодва – Радзімы. Але нядаўна выдавецтва "Тэхналогія", якім кіруе Зміцер Санько, выдала невялічкі беларускі іменнік, дык там ужо Радзім – ёсць!".



Сяргей Шапран

### Бацькі спадара Радзіма размаўлялі толькі па беларуску

"Мае бацька й маці, дзе б яны ні жылі, міжсобку размаўлялі толькі па-беларуску. Бацька ўсе лісты пісаў толькі на роднай мове. У яго было такое замілаванне Радзімай! Усё самае лепшае, паводле ягоных словаў, было толькі ў Беларусі, у роднай вёсцы Багацькаўцы. Мяне многія рэчы проста дзівілі. Маці згатуе што-небудзь простае, але смачнае, а бацька есць і захапляецца: "Ах, якая выдатная крупеня! Ну, як у Багацькаўцы!" Вінаграду ніколі не еў. Пытаюся: "Чаму ты не ясі вінаград, ён жа такі смачны, спажыўны". "А ён у нас у Багацькаўцы не рос, дык я яго й не люблю!"

### У дзяцінстве перажыў шок, калі ўбачыў арыштаванага бацьку

"Памятаю, як маці даведалася, што бацьку затрымалі па дарозе з адпачынку. Выходзіла на вакзал, каб сустрэць, як бацьку прывязуць. І праўда – сустрэла. З мамай былі я, бабуля. Бачым: выходзіць бацька з ахоўнікам. Мама кінулася да яго, ахоўнік турхнуў – ледзь не паляцела. А я крычу: "Тата! Тата!" Я быў малы, але нешта ўжо кумекаў: адбываецца нешта страшнае. З бацькам нам не далі пагаварыць".

### Паводле легенды бацьку Радзіма Гарэцкага ад расстрэлу выратаваў... Сталін

"Бацьку забіралі пару разоў у Маскву як найбольш "злоснага". Больш за паўгода зноў прасядзеў у Бутырцы, а потым, ужо тут, прысудзілі да вышэйшай меры пакарання. Але здарылася дзіўная гісторыя. Сам следчы распавядаў, але можа гэта міф. Прыехалі ў Маскву Чарвякоў і Галадзед – нашыя сапраўдныя беларусы, але шчырыя камуністы. І, як гэты казаў, Сталін падпісваў, каго расстраляць, каго не. Праводзіць рукой па спісе, дайшоў да Гаўрылы Іванавіча. А Чарвякоў і Галадзед пачалі бацьку хваліць, бо добра ведалі. Той пытаецца, колькі яму год. "Хутка будзе трыццаць". Сталін сказаў: "Дык ён яшчэ малады? Ну, няхай нямнога пажыве". І яму далі 10 гадоў у лагеры".

### Ставіў Васіля Быкава на адзін узровень з Янкам Купалам

"Мне блізкі Васіль Быкаў сваёй нязломнай грамадзянскай пазіцыяй барацьбіта за беларускую нацыянальную ідэю — у гэтым ён наш сучасны прарок, як некалі ў адраджэнскі час пачатку стагоддзя быў Янка Купала".

### Лічыў, што нашым дэмакратычным партыям лягчэй разбураць, чым ствараць

У 1995 годзе спадар Радзім запісаў: "Зноў нашы дэмакраты пасварыліся: БНФ абвінавачвае Партыю згоды у развале блока і наадварот. На жаль, наша дэмакратыя пакуль што не здольная стварыць нешта станоўчае, моцнае і сталае, ёй лягчэй разбурыць. Амбіцыі вышэйшыя за справу.

### Здзіўляўся вымуштраванасці КДБістаў

"...калі я на пачатку 1990-х гадоў зайшоў у будынак КГБ, у мяне – халадок па спіне. Гэтым жа калідорам бацьку вялі, тут тысячы нашых людзей збівалі, у "амерыканку" кідалі... А хлопцы там сапраўды вымуштраваныя. Я не ведаю, ці гэта сутнасць у іх такая, ці, як мой дзядзька пісаў пра "дзве душы", у іх двудушнасць такая. Але вельмі ветліва сустракалі. Мяне яшчэ вельмі ўразіла сцэна ў буфеце, калі я пайшоў трохі перакусіць. Здаровы палкоўнік ці маёр – і бярэ там нейкі салацік, і больш нічога! Бо і ў іх тады грошай не было, як і ў мяне".

### Засмучаўся нашай інтэлігенцыяй

"...значна больш інтэлігенцыі з блокаў напужаных маўчальнікаў ці прыстасаванцаў-флюгераў, гатовых служыць любой уладзе, якая цяпер модная. Тут ёсць розныя групы: адных улады прыгрэлі, даўшы добрае месца; другіх адарылі прэміямі ці званнямі; трэціх абяцалі не чапаць і фінансаваць, калі будуць паслухмянымі...".

### Лічыў, што пры добрым гаспадаранні Беларусь магла б быць наперадзе Еўропы

"Японія за нас у 20, 30, а можа, і ў 100 разоў больш бедная на карысныя выкапні. Справа не ў іх, а ў эканоміцы, у тых людзях, якія кіруюць краінай. Многія еўрапейскія краіны зусім не маюць карысных выкапняў ці маюць іх вельмі мала – Швейцарыя, Бельгія, Нідэрланды. А людзі там жывуць нашмат лепш, чым мы. Мы амаль цалкам забяспечваем сябе будаўнічымі матэрыяламі. А спажывецкаю соллю мы можам накарміць цэлы свет! Але да гэтай пары завозім яе з Украіны. Мы багатыя на лекавую мінеральную ваду – ужо збудавана 50 аздараўляльных комплексаў каля свідравінаў. У нашай зямлі ёсць расолы, з якіх пры адпаведнай тэхналогіі можна атрымліваць літый, бром, ёд... У нас ёсць радовішча жалезнай руды каля Карэлічаў. Там не толькі руда, там ёсць золата, срэбра, мармур... У нас ёсць бурштын, буры вугаль, гаручыя сланцы, фасфарыты, цэаліты... Беларусь – багатая краіна. Пры добрым гаспадаранні мы маглі б быць наперадзе ўсёй Еўропы!".

### Пашпартыстка запрашала яго на работу ў пашпартны стол запаўняць бланкі

"Вырашыў памяняць пашпарт, бо ў ім скончыліся чыстыя незапоўненыя лісты. Пайшоў да пашпартысткі – трэба запоўніць бланк на дзвюх мовах. Хутка гэта зрабіў. Пашпартыстка здзіўлена: "Цудоўна! У нас это так редко бывает, так как многие не знают, как написать по-белорусски даже свою фамилию. Приглашаю вас к нам на работу заполнять бланки".

Марк Коласаў, "Будзьма беларусамі!"

## ВІНШУЕМ РАДЗІМА ГАРЭЦКАГА!

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе шаноўнага Радзіма Гаўрылавіча з 90-гадовым юбілеем!

Мы робім гэта з пачуццём вялікага гонару, з захапленнем ад усведамлення маштабу юбіляра і моцы яго адданасці Беларусі.

Лішне казаць, што згадка імя Радзіма Гарэцкага выклікае падобныя пачуцці ў сэрцы кожнага культурнага беларуса, а ў многіх прадстаўнікоў сусветнай навуковай супольнасці – магчыма, нават яшчэ мацнейшыя. Аўтарытэт доктара геолага-мінералагічных навук, прафесара, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і яе віцэ-прэзідэнта ў 1992–1997 гг., лаўрэата шматлікіх дзяржаўных прэмій, у тым ліку замежных, – непахісны. А яго кнігі, прысвечаныя нацыянальнаму адраджэнню Беларусі і рэканструкцыі жыццёвых шляхоў беларускіх дзеячаў з дынастыі Гарэцкіх – каштоўны ўнёсак у гістарычную і літаратурную скарбонкі беларускай культуры.

"Бацькаўшчыну" з Радзімам Гаўрылавічам звязваюць асаблівыя стасункі. Менавіта ён на працягу васьмі гадоў кіраваў Згуртаваннем, у самыя складаныя для яго часы: ад акту яднання грамадскасці, дыяспары і дзяржавы падчас Першага з'езда беларусаў свету да часоў вострага ідэалагічнага падзелу ў беларускім грамадстве. У якасці сябра Рады "Бацькаўшчыны" спадар Радзім браў удзел у падрыхтоўцы ўсіх сямі З'ездаў беларусаў свету, і сёння ён застаецца адным з самых актыўных сяброў Згуртавання, знаходзячы час, каб паміж клопатаў, звязаных з бягучай навуковай працай у Акадэміі, рэгулярна цікавіцца справамі арганізацыі, падтрымліваць яе і дзяліцца карыснымі парадамі з кіраўніцтвам.

Шчыры дзякуй Вам, шаноўны Радзім Гаўрылавіч, за шматгадовую супрацу!

Ад усяго сэрца зычым Вам моцнага здароўя і заўжды заставацца такім жа актыўным, імпэтным і натхнёным!

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

навіны

# Рыжская дума прызнала Вячку Целеша чалавекам года за ўнёсак у адукацыю

Сузаснавальнік Таварыства беларускай культуры "Світанак" у Латвіі, кіраўнік аб'яднання беларусаў-мастакоў Балтыі "Маю гонар", сябра Рады "Бацькаўшчыны" Вячка Целеш уганараваны Думай Рыгі.



Мастак і выкладчык атрымаў прыз года ў намінацыі "За шматгадовы ўнёсак у адукацыю", узнагароду ўручыла старшыня Камітэту па адукацыі, культуры і спорту Рыжскай Думы Эйжэнія Алдэрманэ.

25 верасня Вячка Целеш адзначыў 80 год. Да юбілею была прымеркаваная персанальная выстава "Гадоў датыкненне", якая ахапіла ўвесь перыяд ягонай творчасьці – ад студэнцтва да сталасці.

Целеш быў арганізатарам і дырэктарам першай беларускай школы ў Рызе, быў у Кансультацыйнай радзе пры ўсіх прэзідэнтах Латвіі, абараняў інтарэсы беларусаў. Ягоныя высілкі адзначаныя найвышэйшай дзяржаўнай узнагароды Латвіі – ордэнам Трох Зорак.

"Я ўсё жыццё стаю пад нашым гістарычным сцягам – гэта галоўнае. Я не крычу пра гэта, не размахваю рукамі; мая мэта – з'яднаць беларусаў на нацыянальным грунце. Так было заўжды. Ніхто не аспрэчыць, што я шмат рабіў і працягваю рабіць на карысць Бацькаўшчыны", – заявіў мастак у інтэрв'ю "Свабодзе" з нагоды свайго юбілею.

Вячка Целеш нарадзіўся 25 верасня 1938 года ў Красным Сяле (цяпер пасёлак Краснасельскі Ваўкавыскага раёна) Горадзенскага ваяводства. Мастак, гісторык, пісьменнік, сябра Саюза мастакоў Беларусі і Латвіі, сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына" і адзін з яе заснавальнікаў.

У 20-гадовым узросце выправіўся ў Латвію, працаваў слесарам, вечарамі наведваў мастацкую студыю. У 1975-м скончыў жывапісна-педагагічнае аддзяленне Латвійскай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, пазней атрымаў ступень магістра мастацтва. Быў дацэнтам кафедры культуры і мастацтва Інстытута менеджменту інфармацыйных сістэм у Рызе.

Працуе ў розных жанрах станковага жывапісу і графікі. Аўтар партрэтаў і экслібрысаў беларускіх і латышскіх дзеячаў: Францішка Скарыны, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Кастуся Езавітава, Зоські Верас, Уладзіміра Караткевіча, Адама Мальдзіса, Яніса Райніса.

Адзін з самых вядомых еўрапейскіх філакартыстаў: ягоны альбом "Гарады Беларусі на старых паштоўках" на беларускай і англійскай мовах вытрымаў некалькі перавыданняў і прызнаны ўзорам дакументальнага фотамастацтва.

**"Радыё Свабода"**

# Міхась Андрасюк: мне цікавы асобны чалавек, яго ўнутраны свет

У сваіх кнігах пісьменнік, журналіст, актыўны дзеяч беларускай меншасці ў Польшчы паказвае жыццё правінцыі на польска-беларускім памежжы. Міхась Андрасюк падзяліўся думкамі пра патрыятызм, пра тэму правінцыі ў літаратуры і распавёў пра сваю новую кнігу.



**"Радыё Рацыя": Сёлета мы адзначаем 100-годдзе БНР, 100-годдзе аднаўлення незалежнасці Польшчы. Такія даты павінны выклікаць патрыятычныя пачуцці. Ці можна сказаць, што беларусы Падляшша мусяць быць беларускімі патрыётамі?**

**Міхась Андрасюк:** Патрыятызм – з'ява вельмі складаная. Бываюць розныя выявы патрыятызму. Мне, скажам, бліжэй тое, што побач. Маё наваколле, мой панадворак, маё дрэва. Але з такіх маленькіх цаглінак складаецца штосьці вялікае, тое, што ў рэшце рэшт стварае дзяржаву, нацыю. Я ў сваёй творчасці пазбягаю пампезных патрыятычных тэм. Больш цікавы мне асобны чалавек, яго ўнутраны свет. Не заўсёды той, хто бесперапынна паўтарае пра свой патрыятызм, – патрыёт. Беларусы Падляшша мусяць быць патрыётамі дзяржавы, у якой жывуць. Бо з Польшчай мы зжыліся, безумоўна. Мы сваімі каранямі сягаем аж да Першай Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага. І гэты прыватны патрыятызм выражаецца ў тым, што мы захоўваем сваю мову, сваю культуру, нясем яе праз пакаленні. І гэта таксама патрыятызм, і не трэба складаць вершы пра любоў да свайёй роднай мовы. Дастаткова размаўляць на гэтай мове.

**РР: Летась Вы сказалі, што працуеце над новай кнігай. Як ідзе праца?**

**Міхась Андрасюк:** Я ўжо паціху стаўлю апошнія кропкі ў гэтай кнізе. Застаецца рэдактура і можна аддаваць у друк.

**РР: Пару слоў пра змест.**

**Міхась Андрасюк:** Гэта кніжка, падзеі якой адбываюцца ў трохвугольніку Беласток–Менск–Белавежская пушча. Тры розныя светы, якія перасякаюцца ў лёсах аднаго чалавека. І кожнае з гэтых месцаў адрознае. Адначасова яны перасякаюцца. Класічнае нашае, беларускае, дзе мы, беларусы Падляшша, спалучаем у сабе такія розныя светы. Кніжка пра жывых і мёртвых. Кніжка пра каханне, пра нашую беларускую немач таксама. Пра шлях да свабоды, пра пошукі свабоды.

Міхась Андрасюк дэбютаваў у тыднёвіку "Ніва" з вершамі. Ён аўтар кніг прозы "Фірма", "Мясцовая гравітацыя", "Белы конь".

**Лукаш Леанюк,**
**"Беларускае Радыё Рацыя"**

**навіны**

# БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ ГЕРОЯЎ СЛУЧЧЫНЫ

Сёлета ўсе галоўныя грамадска-палітычныя мерапрыемствы, што ладзіць Згуртаванне Беларусаў Канады, праходзяць пад знакам 100-годдзя Беларускае Народнае Рэспублікі. Таму і ўрачысты сход беларускае грамадскасці Канады з нагоды 98-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну, праведзены 25 лістапада ў Беларускім Грамадска-Рэлігійным Цэнтры Таронта стаўся працягам галоўнага свята беларускага народу.

Распачынаючы святочную імпрэзу, старшыня Галоўнае Управы Згуртавання Беларусаў Канады Алёна Лявончанка зазначыла, што здзейсненае беларусамі Случчыны ёсць прыкладам адданасці Бацькаўшчыне, гатоўнасці ахвяраваць самым каштоўным – сваім жыццём – дзеля абароны роднае зямлі і сваёй свабоды ад чужынскае навалы.

Сябра Рады Парафіі Св. Кірылы Тураўскага БАПЦ Ірына Аксёнава зачытала святочнае прывітанне Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. У ім, у прыватнасці, адзначалася, што сёлетні год – юбілейны для беларускай дзяржаўнасці. Але бачна, як на фоне суседніх з намі краін, што таксама святкуюць стагоддзе сваёй незалежнасці, улады Беларусі фактычна праігнаравалі гэтую найважнейшую дату. У сваім лісце Івонка Сурвілла папрасіла кожнага з Суродзічаў прыпомніць сёння гераізм нашых яшчэ недалёкіх продкаў і выказаць ім павагу за іх яскравы чын. Яны паказалі ўсім нам, як трэба цаніць сваю зямлю.



Старшыня Галоўнай Управы Згуртавання Беларусаў Канады Алёна Лявончанка.

Алесь Кот зачытаў Сімвалічны ліст Нацыянальных Герояў, зазначыўшы, што такая традыцыя ўганаравання змагароў за Бацькаўшчыну ў Дзень Герояў жыве на эміграцыі з самага пачатку існавання на чужыне беларускіх арганізацый. Прамоўца прасачыў сувязь падзей 1918 года ад абвяшчэння БНР да народнага выбуху ў цэнтры Беларусі на Случчыне напрыканцы 1920 года, прадэманстраваўшы на фактах, дакументах адзінства стратэгічных мэтаў Рады БНР і мэтаў Рады Случчыны, адзінства памкненняў беларускага народа, які дэлегаваў сваіх прадстаўнікоў на Першы Усебеларускі З'езд у снежні 1918 года, і памкненняў случчакоў, якія вылучылі на свой з'езд прадстаўнікоў зямлі, на якой яны жылі і якую абаранялі.

Пасля кароткага экскурсу ў ваенныя падзеі падчас узброеннага супрацьстаяння паўстанцаў і аддзелаў Чырвонае арміі Расіі таксама прагучала колькі словаў пра лёс удзельнікаў паўстання пасьля ягонага задушэння, калі са Случчыны з'ехалі каля 15 тысяч чалавек: афіцэраў і стральцоў інтэрніравалі ў Беласток, дзе яны знаходзіліся да красавіка 1921, а потым іх перавезлі ў Дарагуск пад Бугам і там утрымлівалі да канца траўня 1921 года. Тых, хто вярнуўся дахаты, на Случчыну, ГПУ-НКУС спачатку не чапала, вычэкваючы, што да іх далучацца астатнія ўдзельнікі паўстання. Аднак праз 7—8 месяцаў іх арыштавалі, судзілі і выслалі ў Караганду, Салаўкі, на Калыму, дзе яны і памерлі. Так загінулі падпалкоўнік Ахрэм Гаўрыловіч і паручнік Багушэвіч. Капітан Анастас Анцыповіч і Самусевіч былі выдадзены бальшавікам і пасля здзекаў і катаванняў расстраляныя. Паручнік Бранявіцкі быў забіты падасланымі ў Польшчу агентамі НКУС. Паручнік Нікадзім Кернажыцкі і Тодар Янушэнка – арыштаваныя НКУС і сасланыя ў Сібір на цяжкія прымусовыя работы ў 1939 годзе. Прапаршчык Рудзік – расстраляны ў 1940 годзе. Сябра Рады, Юліян Сасноўскі, не вытрымаўшы здзекаў з боку польскай адміністрацыі, скончыў жыццё самагубствам. Старшыня Беларускага з'езду Случчыны Васіль Русак, які стаў пазней выдатным прадпрымальнікам, падчас Другое сусветнае вайны выдаваў паштоўкі з Пагоняй, значкі, карты, якія вельмі добра разыходзіліся на тэрыторыі Беларусі і ў эміграцыі. У 1945 годзе яго, на той час ужо грамадзяніна Чэхаславакіі, смершаўцы гвалтоўна вывезлі ў Савецкі Саюз, дзе ён быў засуджаны на 10 год лагераў. Выбітны беларускі дзеяч у лагеры і памёр 23 жніўня 1954 года.

Расповед Алесь Кот скончыў словамі пра тое, што Героі Случчыны – частка нашае вялікае змагарнае гісторыі, няскоранага народнага духу, і яны вечна будуць жыць з намі.

Удзельнікі сходу пазнаёміліся з серыяй кніг пра Раду БНР ад Лявона Юрэвіча і Наталлі Гардзіенка, выпускамі беларускай газеты "Беларускі Эмігрант", часопісу "Зважай" з артыкуламі па тэме Слуцкага Збройнага Чыну і іншыя выданні незалежнага беларускага друку.

Скончыліся ўрачыстасці агульным спяваннем гімна БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

**Паводле Алеся Ката, Таронта**

**навіны "Бацькаўшчыны"**

# ЦІ З'ЯВІЦЦА БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА Ў ШКОЛЬНЫХ ПАДРУЧНІКАХ?

Днямі ЗБС "Бацькаўшчына" атрымала адказы з Нацыянальнага інстытута адукацыі, Міністэрства адукацыі і з Палаты прадстаўнікоў у адказ на нашу прапанову ўнесці змены ў школьныя падручнікі.

Падставай для прапановы сталі вынікі даследавання, праведзенага экспертамі на замову Згуртавання: школьная праграма амаль цалкам ігнаруе беларусаў замежжа і вынікі іх палітычнай, культурнай і навуковай дзейнасці, а некаторыя падручнікі наогул фармуюць негатыўнае стаўленне да беларускай дыяспары.

З адказу Міністэрства адукацыі вынікае, што ў сувязі з распачатым у 2015 годзе паэтапным пераходам на абноўленыя вучэбныя праграмы і падручнікі шэраг заўваг экспертаў пакрысе страчвае актуальнасць, асабліва ў пунктах, якія датычацца прадмета "Мастацтва": ці не палова імёнаў мастакоў, прапанаваных экспертамі да ўключэння ў праграму, як вынікае з ліста, цяпер будуць вывучацца.

Таксама, са словаў намесніка Міністра адукацыі Р.С. Сідарэнкі, "у змест вучэбнай праграмы для 11 класа (базавы і павышаны ўзроўні) уключана рубрыка "Літаратура беларускага замежжа" (тэма "Сучасная беларуская літаратура. Агляд"), якая знаёміць старшакласнікаў з найбольш вядомымі прадстаўнікамі беларускага замежжа і іх роляй у развіцці беларускай літаратуры".

Разам з тым, "па заўвагах і прапановах да дзеючых вучэбных дапаможнікаў па грамадазнаўстве адзначаем, што ў 9 класе ўключэнне асобных тэм і раздзелаў, прысвечаных беларускай дыяспары, пытанням міграцыі і гісторыка-культурнай спадчыны беларусаў замежжа не прадугледжана вучэбнай праграмай, але належная ўвага надаецца фарміраванню паняцця шматграннасці грамадства, наяўнасці розных груп і слаёў, міжкультурнага дыялогу паміж імі і інш."

У любым разе, Міністэрства адукацыі сцвярджае, што "работа па пашырэнні нацыянальнага кампанента ў змесце вучэбных праграм і падручнікаў" будзе працягвацца, і рабочым групам прапанавана дадаткова разгледзець рэкамендацыі "Бацькаўшчыны" і абмеркаваць пытанне аб магчымасці іх уключэння ў вучэбныя праграмы.

Мы ж, у сваю чаргу, хочам падкрэсліць, што і беларуская дыяспара, і даробак беларусаў замежжа, – з'явы аб'ектыўнай рэчаіснасці. Не заўважаць іх – значыць мець скажоную, ненавуковую карціну свету.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны "Бацькаўшчыны"

# БЕЛАРУСКІХ ПРАВЕДНІКАЎ НАРОДАЎ СВЕТУ ЎВЕКАВЕЧАЦЬ ПОМНІКАМ

14 лістапада на офісе Таварыства беларускай мовы адбыўся сход ініцыятыўнай групы па стварэнні Арганізацыйнага камітэта па ўсталяванні помніка беларусам – праведнікам народаў свету, людзям, якія ратавалі яўрэяў падчас Халакосту.



Злева направа: Дзмітрый Сурскі, Ірына Кашталян, Алена Анісім, Барыс Пятровіч, Ніна Шыдлоўская, Рыгор Сітніца, Юры Меляшкевіч, Уладзімір Фрэнкель, Алена Макоўская.

У часы Другой сусветнай вайны ў Беларусі загінула больш за 800 тысяч яўрэяў (не толькі з Беларусі, але і прывезеных з іншых краін Еўропы). Выжыла толькі каля 30 тысяч, і ў большасці выпадкаў – дзякуючы неабыякавасці жыхароў нашай краіны, якія, рызыкуючы сваімі жыццямі і жыццямі сваіх блізкіх, хавалі і ратавалі яўрэяў. Па колькасці Праведнікаў народаў свету Беларусь займае 8-е месца ў свеце: на пачатак 2018 г. гэтае званне атрымала больш за 900 чалавек (42 з іх жывыя). Відавочна, задакументаваць удалося далёка не ўсе выпадкі, іх значна болей.

Але дагэтуль у Мінску няма ніводнага помніка, які б сведчыў пра гераізм і ахвярнасць жыхароў нашай краіны. І выправіць гэтую гістарычную несправядлівасць яшчэ не позна.

Дзеля гэтага была створаная ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Саюз беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын, Гістарычная майстэрня імя Леаніда Левіна, Беларускі саюз мастакоў і Беларускі саюз дызайнераў. На наступным пасяджэнні ініцыятыўнай групы быў створаны Арганізацыйны камітэт, старшынём якога аднагалосна быў абраны Юрась Меляшкевіч, намеснік старшыні Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Меркаванне на сходзе было аднадушнае: ушанаванне памяці мусіць быць супольным клопатам грамадскасці і дзяржавы. Таму Арганізацыйны камітэт рыхтуе шэраг захадаў для рэалізацыі задуму, а таксама заклікае грамадскія непалітычныя арганізацыі і ініцыятывы далучыцца да справы па ўшанаванні памяці Праведнікаў народаў свету з Беларусі.

*Да ведама*: Праведнікі народаў свету – гэта неяўрэі, якія ў гады Вялікай Айчыннай вайны, рызыкуючы ўласным жыццём і жыццём сваіх блізкіх, ратавалі яўрэяў ад смерці падчас Халакосту. Ганаровае званне "Праведнік народаў свету" прысуджаецца Ізраільскім інстытутам Катастрофы і Гераізму Нацыянальнага мемарыяла Яд ва-Шэм. Узнагароджаныя гэтым званнем атрымліваюць ганаровы дыплом і імянны медаль з надпісам "Той, хто выратаваў адну душу, выратаваў цэлы свет".

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# ФІЛЬМ АНДРЭЯ КУЦІЛЫ ПЕРАМОГ НА ПРЭСТЫЖНЫМ ФЕСТЫВАЛІ

Фільм "Сума" ("Summa") беларускага рэжысёра прызналі найлепшай сярэднеметражнай стужкай на фестывалі дакументальнага кіно IDFA ў Амстэрдаме.

Узнагароджанне пераможцаў прайшло 21 лістапада. Стужка здымалася пры дапамозе "Белсата". На фестывалі адбылася яе сусветная прэм'ера. Рэжысёр фільма Андрэй Куціла спадзяецца, што ў хуткім часе зможа паказаць яго і ў Беларусі.

"Сума" – гэта гісторыя сяброўства паміж сталым польскім мастаком Анджэем Струмілам і маладой беларускай мастачкай Марыяй.




Дзялянка, на якой стаіць дом мастака, нагадвае выспу: з трох бакоў яе атачаюць непраходныя балоты і рэчка Чорная Ганча. Пан Анджэй мае два галоўныя захапленні ў жыцці: жывапіс і гадаванне арабскіх коней. Ён мала спіць, бо лічыць, што часу засталося няшмат: яму амаль 90 гадоў. І пасля смерці жонкі яму вельмі самотна.

Нібыта ў паралельным свеце існуе Марыя. Дзяўчына з ранняга дзяцінства жыве на ўскраіне Мінска ў спальным мікрараёне. Мужады іншых стандартных складнікаў "жаночага шчасця" ёй не дастаткова. Марыю прыцягваюць дзівосныя таямніцы жыцця, якія хаваюцца ў свеце пана Анджэя з ягонай мастацкай галерэяй, стайнямі, ракою і векавымі дрэвамі. Дзяўчына ўцякае туды без аглядкі, пакідаючы ў Мінску мужа, які нават не ведае, калі яна вернецца.

**Паводле ІА, ДР, "Белсат"**



# БЕЛАРУСКУЮ ЦАРКВУ НАЗВАЛІ НАЙЛЕПШЫМ РЭЛІГІЙНЫМ БУДЫНКАМ СВЕТУ НА АРХІТЭКТУРНЫМ ФЭСЦЕ Ў АМСТЭРДАМЕ

Беларуская ўніяцкая царква Святога Кірылы Тураўскага ў Лондане перамагла ў катэгорыі "Найлепшы рэлігійны будынак" на Сусветным архітэктурным фестывалі ў Амстэрдаме.

Будынак паўстаў каля Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане ў 2016 годзе – гэта першы драўляны храм Лондана з 1666 года, храм-помнік ахвярам трагедыі на Чарнобыльскай АЭС. Каб адчуць беларускую архітэктуру, архітэктар Со Цзыўай адмыслова прыязджаў у Беларусь і знаёміўся з аўтэнтычнымі драўлянымі цэрквамі.

Сусветны архітэктурны фестываль – адна з найважнейшых імпрэзаў, прысвечаных архітэктуры.

**"Радыё Свабода"**

навіны

# ГОМЕЛЬЦЫ ЗГАДАЛІ УЛАДЗІСЛАВА АХРОМЕНКУ

У Гомелі згадалі свайго земляка, даследчыка сталінскіх рэпрэсій Уладзіслава Ахроменку.




На адмысловых занятках "Мова нанова" выступілі гомельцы, якія падзяліліся гісторыямі пра свае знаёмства з пісьменнікам. Літаратарка Югася Каляда распавяла пра тое, як Уладзіслаў Ахроменка правёў для яе экскурсію па родным горадзе: "Мы сустрэліся ў Гомелі, быў пачатак года, зіма, вельмі цёмна. І мы абышлі, усе ногі абтапталі па горадзе, бо мы некалькі разоў наматалі колаў да Савецкай і ўздоўж. За адну гэтую сустрэчу ён мне столькі распавёў пра Гомель, што мне здаецца, што ўсе мае веды пра Гомель складаюцца з гэтых расповедаў".

Грамадскі дзеяч Андрэй Стрыжак заўважае, што з Уладзіславам Ахроменкам ён кантактаваў некалькі разоў у разгар украінскай Рэвалюцыі Годнасці: "Уладзіслаў як чалавек, які, як вы бачыце, па ўсіх пытаннях меў даволі дакладную грамадзянскую пазіцыю, не мог застацца ўбаку ад гэтых падзеяў. Ён актыўна ўдзельнічаў у Майдане, быў актывістам грамадскай абароны Майдана. Атрымаў пасля таго, як Майдан скончыўся, нават узнагароду за гэта".

Пісьменнік і супрацоўнік Беларускага Радыё Рацыя Уладзіслаў Ахроменка сышоў з жыцця ў выніку раптоўнай хваробы 9 лістапада. Пахавалі літаратара ў Мінску на Заходніх могілках.

**"Беларускае Радыё Рацыя"**

## Беларускі каляндар памятных дат на снежань 2018 года

4 снежня – 215 гадоў таму, у 1803-м, памёр Давыд Пільхоўскі, пісьменнік.

7 снежня – 155 гадоў таму, у 1863-м, памёр Ануфры Петрашкевіч, паэт, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

7 снежня – 140 гадоў таму, у 1878-м, нарадзіўся Андрэй Зязюля (сапр. Аляксандр Астрамовіч), святар, паэт.

7 снежня – 75 гадоў таму, у 1943-м, забіты Вацлаў Іваноўскі, грамадска-палітычны дзеяч, выдавец, міністр асветы ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі.

7 снежня – 20 гадоў таму, у 1998-м, памёр Леанід Пракопчык, пісьменнік.

8 снежня – 55 гаоду таму, у 1963-м, памёр Даніла Васілеўскі, гісторык.

9 снежня – 45 гадоў таму, у 1973-м, памёр Янка Шутовіч, грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнавец.

10 снежня – 130 гадоў таму, у 1888-м, нарадзіўся Мікола Дзямідаў, вайсковы дзеяч.

18 снежня – 45 гадоў таму, у 1973-м, Пётр Клімук стаў першым беларусам, што паляцеў у космас.

19 снежня – 290 гадоў таму, у 1728-м, памёр Леў Кішка, уніяцкі царкоўны дзеяч, пісьменнік.

25 снежня – Каляды (Божае Нараджэнне) паводле грыгарыянскага календара.

26 снежня – 40 гадоў таму, у 1978-м, памёр Вінцук Адважны (сапр. Язэп Германовіч), святар, пісьменнік, дзеяч беларускай эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі.

# "ЁСЦЬ НАГОДА ДЛЯ КАРАГОДА!" – НАБОР СТЫКЕРАЎ АД "БУДЗЬМА!"

По ўсім свеце назіраецца сапраўдны стыкерны бум! Дзе іх толькі цяпер не сустрэнеш: на стадыёнах, у трэнажорных залах, у барах, клубах і шмат дзе яшчэ. Натуральна, што "Будзьма!" не засталася ўбаку: пабачыў свет набор з 29 яскравых стыкераў, які будзе цікавы не толькі дзецям, але і дарослым! І гэта толькі пачатак!

У першым выпуску – тэматычныя стыкеры да творчасці нашых класікаў Яна Баршчэўскага, Янкі Маўра, Максіма Гарэцкага і Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, а таксама налепкі, прысвечаныя нашаму "Буквару", які сёлета адзначыў сваё 400-годзе. Кожны ліст са стыкерамі аздоблены кароткім інфарматыўным апісаннем.

Яскравыя і адметныя, гэтыя стыкеры ўпрыгожаць вашыя планшэты, камп'ютары, ноўтбукі ды іншыя прылады. У Мінску нашыя налепкі можна знайсці ў наступных крамах: "Акадэмкніга", "Цэнтральная кнігарня", "Мой модны кут", "Светач", "Веды", "Кнігарня пісьменніка". Пра новыя пункты продажу ў сталіцы і абласных цэнтрах паведамім дадаткова.

Праз інтэрнэт можна замовіць налепкі праз Knihi.by, а ў краме symbal.by пры замове можна бясплатна атрымаць 1 набор налепак да 100-годдзя БНР!

Таксама найлепшыя са стыкераў з'явіліся ў Telegram!







# КАЛЯНДАР "НЕ МАЎЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ!"

Замаўляйце каляндар "Не маўчы па-беларуску – 2019" ад кампаніі "Будзьма!"!

Каляндар складаецца з 40 невялікіх гісторый. Дзякуючы падачы матэрыялу ў форме "тыдняў", ён сёлета атрымаўся яшчэ зручнейшым для вывучэння беларускай мовы: назвы пальцаў, вайсковыя каманды, прафесіі, гукаперайманні, жывёлы і скорагаворкі.

Генеральны партнёр выдання – сетка аўтазаправачных станцый "А-100", якая ўзяла чынны ўдзел у падрыхтоўцы выдання. Кампанія "Будзьма беларусамі!" дзякуе таксама крамам "Symbal.by" і "Мой модны кут", моладзеваму аб'яднанню "Фаланстэр".

Папулярная серыя календароў "Не маўчы па-беларуску!" – запатрабаваных беларускамоўных праектаў апошняга часу.

Каляндар "Не маўчы па-беларуску!" можна набыць у мінскіх кнігарнях, а таксама праз інтэрнэт-крамы knihi.by і symbal.by.

**Беларусы ў свеце**
No 11 (198), лістапад 2018

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27